# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі**

**№30 Чэрвень - Жнівень 2013**

**Культурна-асьветніцкая газэта**

## З Ь М Е С Т



## Беларуская Чэхія

### Дзень беларускай Вікіпедыі

20-га красавіка ў памешканьні клюбоўні ў Празе адбылася цудоўная акцыя, прысьвечаная ўзбагачэньню беларускай Вікіпедыі. У ёй прынялі ўдзел каля дзесяці чалавек.

Томаш Бладынец, ураджэнец Польшчы і сябра беларусаў, які зьяўляецца спецыялістам па Вікіпедыі і адным з арганізатараў гэтай акцыі, тлумачыў асновы стварэньня артыкулаў у Вікіпедыі, даваў парады адносна таго, пра што, як і дзе лепей напісаць. Пры ягонай дапамозе праскія беларусы напісалі некалькі артыкулаў, сярод іх, напрыклад артыкулы пра аб’яднанне “ПАГОНЯ” і беларускую клюбоўню ў Празе, спадара Юрку Станкевіча, часапіс “Крывія”, князя Бутаўта Кейстутавіча. Як аказалася, існуюць ажно дзьве беларускія Вікіпедыі: у адной зь іх артыкулы пішуцца на тарашкевіцы, а ў другой - наркамаўкай. Па жаданьні спадара Юркі Станкевіча артыкулы падчас акцыі ствараліся пераважна на тарашкевіцы.

У прысутных была магчымасьць набыць некаторыя з апошніх кніг Зянона Пазьняка і ягонай жонкі Галіны Пазьняк, якія па просьбе аўтараў прывез з сабой і прэзэнтаваў Анатоль Міхнавец, таксама адзін з арганізатараў дня беларускай Вікіпедыі ў Празе.



Напрыканцы мерапрыемства найбольш актыўныя удзельнікі атрымалі ўзнагароды (на фатаздымку ніжэй Паша Котаў, пераможца дня беларускай Вікіпедыі)

Усім удзельнікам акцыя прыйшлася да спадобы, таму Анатоль Міхнавец з Томашам Бладынцом абяцалі ў будучыні па магчымасьці яе паўтараць!





*Прыемнае завяршэньне плённага дня*

**НАЙНАВЕЙШЫЯ**
**весткі**
**з жыцьця беларусаў Чэхіі**
знойдзеце на сеціўнай старонцы
суполкі ПАГОНЯ
**http://pahonia.cz**

## Прэзентацыя кнігі Джоэн Станкевіч

11-га траўня ў памяшканьні клюбоўні адбылася прэзентацыя кнігі - успамінаў Джоэн Станкевіч пад назвай “Living with the scent of danger: European adventures at the fall of communism” (“Жыцьцё з водырам небясьпекі: мае эўрапэйскія прыгоды ў часе пары падзеньня камунізму”).

Спадарыня Станкевіч распавяла прадгісторыю напісаньня кнігі, зачытала найцікавейшыя ўрыўкі і падзялілася уражаньнямі аб успрыняцьці кнігі людзьмі з розных краінаў. Джоэн разам са сваім мужам Вячкам запланавалі цэлае падарожжа па Эўропе “ў хатцы на колах” з мэтай пазнаёміць некалькі краінаў з новай кнігай, у тым ліку Італію, бо свае жыцьцёвыя прыгоды ў гэтай краіне Джоэн таксама апісала ў кнізе.

Прэзентацыя праходзіла пераважна на ангельскай мове, але некаторыя моманты спадар Вячка Станкевіч растлумачыў па-беларуску.

Пасьля прамовы Джоэн слухачы мелі магчымасьць задаць ёй свае пытаньні. Калі нехта пацікавіўся, што пра Беларусь думаюць амерыканцы, Джоэн прызналася, што большасьць пра яе амаль нічога ня ведае. І ў гэтым сэнсе адна з галоўных мэтаў прэзентаванай кнігі - пашырэньне ведаў пра Беларусь у Амэрыцы і на Захадзе. Паводле словаў Джоэн, кніга ўжо выклікала немалую зацікаўленасьць Беларусьсю сярод амэрыканскіх чытачоў, некаторыя зь іх нават пачалі адсочваць Беларускія навіны. На пытаньне пра тое, ці не плануеца пераклад кнігі на беларускую (ці прынамсі расейскую) мову, Вячка адказаў, што гэта добрая ідэя, і магчыма ў недалёкай будучыні яны з жонкай зноў завітаюць у нашую клюбоўню зь беларускай версіяй кнігі.Усе жадаючыя набыць кнігу ўспамінаў Джоэн Станкевіч могуць гэта зрабіць праз “Амазон” (кошт кнігі на дазены момант складае $15,36):

http://www.amazon.com/Living-Scent-Danger-Adventures-Communism/dp/143277...





*Удзельнікі прэзентацыі кнігі*
*Джоан Станкевіч*

## Ня стала Юрася Бушлякова

У Менску пасьля цяжкай хваробы памёр філёляг, пэдагог, журналіст Радыё Свабода Юрась Бушлякоў.

Юрась Бушлякоў адышоў 4 чэрвеня а 19-й гадзіне.

29 траўня яму споўнілася 40 гадоў.

Пасьля заканчэньня менскай сярэдняй школы з залатым мэдалём Юрась паступіў на філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, які скончыў з чырвоным дыплёмам.

У 2003 годзе ён абараніў дысэртацыю на тэму «Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы)». Выкладаў у БДУ, у Нацыянальным гуманітарным ліцэі ў Менску, у Карлавым унівэрсытэце (Прага).

Журналістыкай Юрась займаўся ад 1994 году, працаваў у незалежных СМІ, на Радыё Рацыя, апошнія дзесяць год — на Радыё Свабода.

Засталіся бацькі і сын.

Разьвітаньне зь Юрасём Бушляковым адбылося ў Менску 6 чэрвеня, 2013.

## Кніга Залаты век Беларусі выйшла на чэскай мове

У пятніцу 14.06.2013 пабачыла сьвет кніга Станіслава Акінчыца “Залаты век Беларусі” ў чэскім перакладзе Святланы Врановай.

У 2013 годзе Беларусь адзначае гадавіну пачатку Рэфармацыі – 600-годзьдзе прапаведваньня Гераніма Праскага ў ВКЛ. У духоўным адраджэньні літвінаў значную ролю адыгралі кантакты чэскіх і беларускіх рэфарматараў. Для гэтага юбілею беларускія і чэскія пратэстанты плануюць сумесныя дзеяньні. У іх рамках, між іншым, адбудуцца канферэнцыі пра Рэфармацыю і чэска-беларускія дачыненьні ў XV і XVII стагодзьдзях. Супольная чэска-беларуская канферэнцыя “Чэскія студні: чэска-беларускае сяброўства ў ходзе гісторыі”, адбылася ў канцы чэрвеня ў горадзе Брно. У праграме выступяць беларускія ды чэскія прамоўцы. Мэтай і задачай канферэнцыі зьяўляецца ўспомніць гістарычны кантэкст, фактычна захапіць спадчыну Рэфармацыі цяперашнім пакаленьнем, і таксама прадставіць чэхам Беларусь, пра якую большасьць зь іх наагул нічога ня ведае.

Чэскі пераклад кнігі **Залаты век Беларусі** паўстаў у сувязі з запланаванымі дзеяньнямі, асабліва з канферэнцыяй. Яго мэта – інфармаваць чытача аб беларускім «Залатым веку» і чэскім уплыве на яго і паказаць, як шмат нашыя краіны маюць супольнага. Мы верым, што дзякуючы гэтай кнізе Беларусь станецца больш блізкай да чэскага сэрца.

Кніга была выдадзена за свой кошт, са сродкаў сабраных чэскімі хрысціянамі і праскімі беларусамі.

С.В.





# Сьвяткаваньне Купальля ў Празе

*адбылося ў сыботу 22-га чэрвеня*

Месцам правядзеньня гэтага мерапрыемства быў Kostoprtský rybník, раён Praha - Bohnice.

Запрошаныя ( зь Беларусі )музыкі **Раман Яраш** і **Цімох Авілін** засьпявалі беларускія народныя песьні.

Цімох таксама правёў для ўсіх зацікаўленых экскурсію па ЗОРНЫМ небе “Дзе і хто нашыя зоркі” і пазнаёміў нас менавіта зь беларускімі паданьнямі, зьвязанымі з зорамі і сузор’ямі.

Таксама было зладжана вогнішча для карагодаў.



*Хлопцы ў прыродзе*





*Наймалодшы ўдзельнік*
*Алесь Цімошчанка*

# Выстава ЯНКІ КУПАЛЫ + канцэрт

25-га чэрвеня --- гадавіна дня нараджэньня беларускага паэта і драматурга **Янкі Купалы**, сёлета яму б споўніўся 131 год. З гэтай нагоды была зладжана невялікая выстава, прысьвечаная ягонаму жыцьцю і творчасьці



Выстава адбылася ў нашай клюбоўні ў аўторак 25 чэрвеня.

Падчас мерапрыемства быў праведзены конкурс сярод чытачоў вершаў Янкі Купалы, пераможца быў узнагароджаны.

У той жа вечар **Цімафей (Цімох) Авілін** засьпяваў гасьцём клюбоўні песьні са свайго новага альбому *“Беларускі гарадзкі раманс 20-30-ых гадоў XXст.”*.

Сярод песьняў мы пачулі:

- беларускія “блатныя” песьні,
- песьні зьняволеных у тагачасных беларускіх турмах





*Цімох Авілін таксама наведаў Каліфорнію (ЗША)*

## Афіцыйнае прызнаньне беларусаў у якасьці нацыянальнай меншасьці ў Чэскай Рэспубліцы

Пачынаючы кампанію па прызнаньні беларусаў у якасьці нацыянальнай меншасьці ў Чэхіі ў 2010 годзе, мы мелі на мэце выключна дасягненьне гэткага выніку.

Улічваючы досьвед папярэдніх спробаў паасобных прадстаўнікоў беларускай грамады ў Чэхіі, якія ня здолелі пайсьці далей за размовы з паасобнымі прадстаўнікамі чэскай палітычнай грамадзкасьці, дзе ім казалі, што шанцаў на гэта амаль няма, што гэта за складана ці ставілі пытаньне аб мэтазгоднасьці наагул пачынаць гэты працэс, мы вырашылі пайсьці іншым шляхам.

Ініцыятары прызнаньня належаць да суполкі "Пагоня" (г. Прага). Іх было пяцёра – мастак **Адась Калюта,** прадпрымальнік **Віталь Цімошчанка**, а таксама частка рэдакцыі часопісу *"Belarusian Review"* у складзе яго галоўнага рэдактара **Юркі Станкевіча**, рэдактара сайту часапісу і юрыста **Кірыла Касьцяна**, а таксама намесьніцы рэдактара часопісу і спэцыяліста ў міжнародных дачыненьнях **Ганны Васілевіч**. Замест таго каб хадзіць і пытацца і размаўляць зь кімсьці, мы вырашылі прааналізаваць закадаўства Чэскай рэспублікі датычна патрабаваньняў да прызнаньня нацыянальных меншасьцяў, каб даведацца наконт рэальных пэрспэктываў прызнаньня беларусаў у якасьці меншасьці і акрэсьліць стратэгію нашых дзеяньняў.

Гэты юрыдычны аналіз быў зроблены Кірылам Касьцянам і на падставе яго была выясьненая неабходнасьць дакладаньня меркаваньня экспэрта-гісторыка, дзеля ацэнкі гістарычнай прысутнасьці беларусаў наземлях сучаснай Чэскай рэспублікі. Пошукам такога экспэрта і супрацоўніцтвам зь ім займалася **Ганна Васілевіч**. Экспэртам стала вядомая чэская прафэсарка **др. Мілада Палішэнск**а, якая ў сваіх дасьледаваньнях факусуецца на праблематыцы камуністычных рэспрэсіяў у пасьляваеннай Чэхаславаччыне, а таксама займаецца пытаньнямі нацыяналізму і нацыябудаваньня ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Прафэсарка др. Палішэнска, якая ведае беларускую праблематыку як у кантэксьце камуністычных рэпрэсіяў у Чэхаславаччыне, так і ў шырэйшай пэрспэктыве, пагадзілася даць такое меркаваньне. Мы мусім тут адзначыць выключную ролю Ганны Васілевіч у працэсе каардынацыі падрыхтоўкі меркаваньня экспэрта і юрыдычных дакумэнтаў у справе прызнаньня беларусаў як нацыянальнай меншасьці, што дазволіла падрыхтаваць узгодненыя і кансалідаваныя тэксты, пазьней прыхільна прынятыя ўладамі Чэскай рэспублікі.

Асабліва хочам падзякаваць **Юрку Станкевічу** за каардынацыю перакладаў, шматгадовую плённую дзейнасьць у беларускай справе ў Чэхіі і веру ў неабходнасьць гэтага прызнаньня.

Асноўным юрыдычным дакумэнтам стаў адпаведны **Мэмарандум** з посьбай прызнаць беларусаў як нацыянальную меншасьць. Тэкст Мэмарандуму грунтаваўся на аналізе заканадаўства Чэскай рэспублікі і на меркаваньні экспэрта, і быў падрыхтаваны Кірылам Касьцянам. Гэты Мэмарандум быў дасланы Прэзыдэнту Чэскай рэспублікі **Вацлаву Кляўсу**, прэм'ер-міністру – **Пэтру Нэчасу**, а таксама старшыням абедзьвюх палатаў парлямэнту Чэскай рэспублікі – **Пшэмыславу Соботку і Міраславе Немцавай**. Адказы ад Прэзыдэнта і кіраўнікоў парлямэнту хоць і адсылалі да Ўраду, але былі прыхільнымі

Урад Чэскай рэспублікі таксама прыязна паставіўся да нашага Мэмарандуму і адгэтуль нас сталі рэгулярна запрашаць на паседжаньні Рады Ўраду Чэскай рэспублікі ў справах нацыянальных меншасьцяў. Чэскія ўлады зьвязвалі прызнаньне з апошнім агульнанацыянальным перапісам насельніцтва 2011 г., вынікі якога, паказалі што ў Чэхіі пражывае больш за 2 тысячы этнічных беларусаў.

Інфармацыя аб прызнаньні дзеля незавершанасьці працэсу сьвядома намі не распаўсюджвалася, бо нам хацелася ганарыцца ня столькі высілкамі, колькі станоўчымі вынікамі. Акрамя таго, нам не хацелася спэкуляваць яшчэ няпрынятым рашэньнем і рабіць сабе на гэтым рэкляму. Таксама хочам падкрэсьліць, што сярод чэскіх беларусаў існаваў кансэнсус аб неабходнасьці афіцыйнага прызнаньня ў якасьці меншасьці, пра што сярод іншага сьведчаць апісаныя вышэй ранейшыя высілкі іншых прадстаўнікоў беларускай грамады.

Пасьля выкананьня ўсіх фармальнасьцяў чэскі ўрад прыняў рашэньне аб пашырэньні складу Рады Ўраду Чэскай рэспублікі ў справах нацыянальных меншасьцяў, уключыўшы ў яе ад беларусаў **Адася Калюту**, як прадстаўніка суполкі "Пагоня".

Актыўна займаючыся справамі прызнаньня і шырэйшай грамадзка-культурніцкай дзейнасьцю ў Чэхіі, суполка "Пагоня" сталася каардынацыйным цэнтрам беларускай супольнасьці ў Празе, чаму спрыяе наяўнасьць новага памяшканьня беларускай клюбоўні, зьяўленне якой сталася магчымым дзякуючы высілкам **Віталя Цімошчанкі і Андрэя Гайко**. Новая клюбоўня была ўрачыста адчынена сёлета падчас сьвяткавання Дня Волі з удзелам Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы і іншых ганаровых гасьцей. У клюбоўні рэгулярна адбываюцца беларускія імпрэзы і месьціцца беларуская бібліятэка, якая рэгулярна папаўняецца дзякуючы нашым сябром і партнэрам як зь Беларусі, так і зь іншых краінаў.

Ад імя суполкі "Пагоня" мы хочам падзякаваць усім тым хто спрычыніўся да гэтай гістарычнай падзеі – **Міладзе Палішэнскай, Вацлаву Шмейкалу, Яну Рыхліку, Івонцы Сурвіле, Сяргею Навумчыку** і ўсёй Радзе БНР, а таксама ўсім іншым, хто быў побач і ў розныя спосабы дапамагаў. Мы высока цэнім гэтую падтрымку і верым, што дасягнутае прызнаньне паспрыяе ня толькі паўнейшай інтэграцыі беларускай супольнасьці ў чэскае грамадзтва, але і спрычыніцца да лепшых магчымасьцяў у разьвіцьці беларускай культуры і мовы ў Чэхіі, а таксама зацікаўленасьці ў штораз шчыльнейшай супрацы паміж грамадзтвамі нашых дзьвюх краінаў

Рада суполкі "Пагоня"

у *Празе 03.07.2013*

## НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

# Юрася Бушлякова пахавалі пад бел-чырвона-белым сьцягам

Разьвітацца зь Юрасём Бушляковым прыйшлі ягоныя родныя, бліжэйшыя сябры і паплечнікі — а гэта вядомыя ў краіне літаратары, навукоўцы, журналісты, выкладчыкі і студэнты. Дзесяткі людзей несьлі да труны белыя і чырвоныя кветкі, запальвалі сьвечкі і казалі словы памяці.

Труна зь целам Юрася Бушлякова была пакрыта вялікім бел-чырвона-белым сьцягам. Цырымонія разьвітаньня распачалася малітвай, якую адправіў сьвятар грэка-каталіцкай царквы, айцец Андрэй Абламейка. Слова браў геральдыст Уладзімер Крукоўскі, мовазнаўца, выкладчык і грамадзкі дзеяч Лявон Баршчэўскі, старшыня беларускага ПЭН-цэнтру Андрэй Хадановіч, журналіст Віталь Цыганкоў. Галоўная думка кожнай прамовы — адыход Юрася Бушлякова — страта для ўсяго беларускага. Рэдактар часопісу «ARCHE» Валерка Булгакаў — сябра Юрася Бушлякова з часоў студэнцтва — у разьвітальным слове сказаў:

«Для мяне Юрась Бушлякоў быў прыкладам хрысьціяніна. Для яго служэньне беларушчыне ня было каньюнктурным, ён быў беларускамоўным наскрозь: ён быў беларускамоўным у крамах, ён быў беларускамоўным у таксоўках і цягнікох, ён быў беларускамоўным, калі хадзіў на цяжкія візыты ў онкадыспансэр. Быць сьвядомым і актыўным беларусам у беларускім грамадстве надзвычай цяжка перадусім з прычыны псыхалягічных выдаткаў. Юрась прайшоў свой крыжовы шлях ад пачатку да канца. І магчыма, што акурат наша чэрствасьць, наша неўспрымальнасьць, наша пагарда да беларускай мовы і культуры і спрычынілі ягоны такі хуткі і заўчасны канец».



Дасканалая адукацыя і бліскучае веданьне мовы дазвалялі Юрасю Бушлякову быць ня толькі лідэрам новай плыні беларускага мовазнаўства, але і высокапрафэсійным выкладчыкам, таленавітым журналістам. Апошнія гады Юрась Бушлякоў працаваў у рэдакцыі Радыё Свабода. Дырэктар Радыё Свабода Аляксандр Лукашук на разьвітаньне з сябрам і паплечнікам сказаў:

«Самая вялікая страта — гэта страта — для бацькоў сына, для сына бацькі, для каханай жанчыны каханага чалавека. Але гэтую вялікую страту родных і блізкіх Юрася, як сваю асабістую, таксама сёньня перажываюць тыя, хто зь Юрасём быў знаёмы, ведаў і працаваў разам — на Радыё Свабода ў Празе, і ў Менску. Гэта пісьменьнікі, журналісты, мовазнаўцы, выкладчыкі і студэнты. Але ня толькі: у гэтыя дні становіцца зразумела, што страта Юрася — гэта агульнанацыянальная страта. Бо словы болю і спачуваньня прыходзяць ад людзей, якія ніколі зь ім ня сустракаліся, ня бачылі яго, ня ведалі. Гэтыя словы ідуць з усёй Беларусі і з замежжа. Гэта агульнанацыянальная страта, бо справа, якою ён займаўся — любіць, берагчы, мацаваць родную мову — гэта падставовая справа беларускай культуры, беларускай незалежнасьці, беларускай прышласьці. Праводзім Юрася, але не разьвітваемся зь ім: праз сорак дзён, калі яго душа адправіцца ў вырай, яна, канечне ж, сустрэнецца там з душамі Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Лёсіка і зможа сказаць ім: я не самотная, я кніжку маю — з друкарні Радыё Свабода, яна называецца „Жывая мова“. І яны скажуць: сапраўды жывая, жыве і будзе жыць. Дзякуй табе, Юрась».

# 23 ліпеня — прэзэнтацыя кнігі Юрася Бушлякова

*Выйшла з друку кніга супрацоўніка Радыё Свабода Юрася Бушлякова «Жывая мова».*

**«Жывая мова»** Юрася Бушлякова — калекцыя практычных эсэ пра тое, як гаварыць па-беларуску правільна і прыгожа. Цягам сваёй рэдактарскай працы на Радыё Свабода аўтар выяўляў складаныя, спрэчныя ці памылковыя моманты ў жывой мове, аналізаваў іх і даваў парады, якія склалі цыкль радыёперадачаў і леглі ў аснову кнігі.

Гэтую кнігу Юрась дапісваў і ўдасканальваў да апошніх дзён жыцьця. Яна ўбачыла сьвет да саракавін з дня ягонай заўчаснай сьмерці.

Прэзэнтацыя кнігі адбылася 23 ліпеня а 18-й гадзіне ў памяшканьні сядзібы БНФ, Менск, вуліца Чарнышэўскага, 3.

Кнігу **«Жывая мова»** можна замовіць на svaboda@rferl.org




Сёньня друкуем **тры прыклады** з розных разьдзелаў.

### НАЦІСКІ

Везьці — везла, вёз; церці — церла, цёр; легчы — легла / лягла, лёг

Яна не́сла, а ён нёс; яна трэ́сла, а ён трос: разьбіраем формы прошлага часу шэрагу дзеясловаў — тыя формы, пры ўжываньні якіх дапускаюць памылкі.

Трэба зьвярнуць увагу на тое, што ў нашай мове ёсьць цэлая група дзеясловаў на **-ці і -чы**, кожны зь якіх у пачатковай форме — інфінітыве — мае націск на першым складзе: ве́зьці, грэ́бці, ме́рці, не́сьці, пе́рці, скрэ́бці, трэ́сьці, це́рці, ле́гчы, прэ́гчы і колькі іншых. У формах прошлага часу адзіночнага і множнага ліку гэтых дзеясловаў

націск застаецца на галосным гуку кораня: ве́зьці — ве́зла і ве́зьлі, скрэ´бці — скрэ´бла і скрэ´блі, це́рці — це́рла і це́рлі і г.д. У выпадку дзеяслова **ле́гчы** нарматыўныя слоўнікі дапускаюць варыянтныя формы прошлага часу: ле́гла, ле́глі і лягла́, лягло́, ляглі́.

Таксама памятайма, што мінулачасавыя формы жаночага і ніякага родаў, з аднаго боку, і мужчынскага роду, з другога, разьбіраных дзеясловаў адрозьніваюцца характарам галоснага ў корані: у формах мужчынскага роду гук [э] пераходзіць у [о]: яна не́сла — ён нёс ([н'эсла — н'ос]), це́рла — цёр, ле́гла — лёг. Такім самым чынам спрагаюцца й дзеясловы, вытворныя ад названых (апрача тых, што маюць прыстаўку вы-): даве́зьці – давёз, даве́зла, даве́зьлі; паме́рці – памёр (ні ў якім разе не памер!), паме́рла, паме́рлі; растрэ´сьці — растрос, растрэ´сла, растрэ´сьлі; зале́гчы — залёг, зале́гла, зале́глі, але, напрыклад, вы´несьці — вы´нес, вы´несла, вы´несьлі.

Не забываймася, аднак, што паказанага вышэй каранёвага чаргаваньня [э] — [о] няма пры літаратурным спражэньні дзеясловаў бе́гчы і се́кчы / сячы´, а таксама вытворных ад іх — бег, бе́гла, бе́глі; сек, се́кла, се́клі.

### БУДОВА СЛОВА

#### Меркаваны, чаканы, шуканы

У мінулым стагодзьдзі ўеліся ў беларускую мову калькаваныя формы дзеяпрыметнікаў — і ніяк дасюль не зьвядуцца. Штодня чуем пра ахоўваемыя стаянкі, будуемыя аб'екты і мяркуемыя сустрэчы.

Зялёнае сьвятло такім калькам расійскіх дзеепрыметнікаў запалілі рэфарматары нашай мовы ў 1930-я. І тады, і пазьней шмат хто забываўся, што беларуская мова і ў гэтым выпадку мае свае сродкі. Адпаведнікамі расійскіх аддзеяслоўных формаў на -емый, -имый і -омый выступаюць, як правіла, беларускія з суфіксам **-н-: жаданы, паважаны, рыхтаваны, чаканы.** Жаданы — той, якога жадаюць, паважаны — якога паважаюць, рыхтаваны — які некім рыхтуецца, нарэшце, чаканы — той, якога чакаюць.

“Песьні… духамі зораў ствараныя”, — чытаем у Купалы. Ствара́ныя — значыць цяпер ствараюцца, пакуль што ня створаныя. Скажам правільна: будаваныя дамы, ведзены самалёт, выдаваная літаратура, кіраваная эканоміка, меркаваныя вынікі, падазраваная асоба, шуканыя (вышукваныя) злачынцы — рэальны граматычны час названых і аналягічных ім беларускіх дзеяпрыметнікаў такі, які час асноўнага дзеяньня ў сказе. Часам у ролі беларускіх адпаведнікаў расійскіх формаў на -емый ды -имый выступаюць звычайныя прыметнікі: напрыклад, прыпамінаную аўтастаянку пад ахovаю называем **падахоўнаю**, а чалавека, абаранянага ў судзе, **падабаронным.**

### ФОРМЫ СЛОВА

#### Множны лік: дзяўчаты, дзяўчаткі

Ці памятаем мы пра дзяўчат і дзяўчатак — пра традыцыйныя і абавязковыя для беларускай мовы формы множнага ліку назоўнікаў дзяўчына і дзяўчынка? На жаль, не заўжды і ня кожны. Запрашаюць, напрыклад, на перадачу хлопчыкаў і дзяўчынак або, скажам, выдаюць часопіс для дзяўчынак.

Замест формы дзяўчынак у такіх выпадках трэба ўжыць другую — дзяўчатак. У множным ліку назоўнік дзяўчынка мае форму **дзяўчаткі**, назоўнік дзяўчына — **дзяўчаты.**

Згодна з нормамі літаратурнай мовы, формы дзяўчынкі і дзяўчыны маем ужываць толькі ў спалучэньні зь лічэбнікамі дзьве, тры і чатыры: у залі былі дзьве дзяўчынкі, у двары мы пабачылі трох дзяўчын, але для ўдзелу ў перадачы запрасілі дзяўчатак, дзяўчаты сабраліся на сустрэчу.

Трэба памятаць, што ў множным ліку словы дзяўчынка і дзяўчына крыху зьмяняюць сваё аблічча: дзяўчынка чытае часопіс для дзяўчатак, дзяўчына ідзе насустрач дзяўчатам.

# Завяршыў працу 6-ты зьезд Згуртаваньня Беларусаў Сьвету “Бацькаўшчына”

**“Аб акце добрай волі”** – такую заяву прынялі дэлегаты VI зьезду Згуртаваньня Беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”. Удзельнікі выказваюць занепакоенасьць наяўнасьцю палітычных зьняволеных у Беларусі. Яны заклікаюць улады Беларусі зрабіць акт добрай волі і вызваліць вязьняў сумленьня, якія знаходзяцца за кратамі за свае палітычныя перакананьні.

Сябра Рады “Бацькаўшчыны” **Валянцін Голубеў** лічыць, што ёсьць неабходнасьць у дыялогу:

*- Усе ўсьведамляюць, што на сёньняшні дзень у турмах ёсьць людзі, пакараныя толькі за тое, што не пагадзіліся з афіцыйнай думкай, ці адкрыта выступілі супраць яе. І ў кіраўніцтве разумеюць, што адбываецца, але зараз надыйшоў такі час, як падаецца нашаму зьезду, што трэба лепш зрабіць крок да прымірэньня, і прасьцей гэты крок зрабіць мацнейшаму, то бок, уладзе.*

Напрыканцы працы зьезду былі абраныя кіроўныя органы і прайшло першае паседжаньне новаабранай Вялікай Рады. Кіраўніком ЗБС “Бацькаўшчына” была абраная **Алена Макоўская**, старшынёю Рады – **Ніна Шыдлоўская.** Намесьнікамі Вялікай Рады сталі **Валеры Герасімаў** і **Барыс Стук.**




*Алена Макоўская*

Кіраўнік ЗБС “Бацькаўшчына” **Алена Макоўская** распавяла пра тое, што значыць для яе пераабраньне на такую важную пасаду:

- Гэта – адказнасьць. Таму што праца ў грамадзкай арганізацыі – гэта ня той час, калі ў 18.00 выключаеш камп'ютар і ідзеш дахаты. Ты жывеш гэтым, і сапраўды пераабраньне – гэта знак даверу. Гэта вельмі высокая ацэнка той дзейнасьці, якую “Бацкаўшчына” рабіла да гэтага часу, і

гэта сапраўды крэдыт даверу на будучыню.

Старшыня Рады **Ніна Шыдлоўская** па выніках зьезду адчувае гонар за тое, што мае давер дэлегатаў узначальваць адзін з галоўных кіруючых органаў ЗБС "Бацькаўчшына":

*- Насамрэч, у нас у Раду ўваходзяць вельмі паважаныя асобы і дзеячы, як з Беларусі, так і з замежжа. Гонар, канешне. Гэта значыць, што за чатыры гады мая праца ня толькі не расчаравала, але і дала падмурак для таго, каб быць абранай зноў. З іншага боку, гэта праца. Я ведаю, наколькі шмат, наколькі адказна і наколькі часам складана. Таму што часам "Бацькаўшчына" выконвае тыя функцыі, якія, хацелася б, каб брала на сябе дзяржава.*

Таксама быў прыняты шэраг рэзалюцый, такіх як **"Пра захаваньне гісторыка-культурнай спадчыны", "Пра транслітарацыю найменьняў беларускіх геаграфічных аб'ектаў" і "Беларуская мова – галоўны фактар захаваньня беларускай нацыі".**

У часе працы зьезду беларусаў свету прайшоў шэраг мерапрыемстваў. У тым ліку быў прэзентаваны праект мультымедыйных і кніжных выданьняў беларускіх дыяспараў. Каардынатар праекту **Юрась Меляшкевіч** назваў удзельнікаў "беларускімі скарынамі замежжа":

- Выйшла кніжка, напрыклад, дапаможнік для беларускіх журналістаў. Або кніга Юрася Бушлякова. Чаго толькі вартая прэзентацыя азбукі для айпаду, гэта штосьці прарыўнае. І гэта даступна беларусам ва ўсім сьвеце – хоць у Аўстраліі, хоць у Бразіліі. Толькі можна ганарыцца, што такія людзі працуюць дзеля Беларушчыны за мяжой. Нашы Скарыны нас чакаюць у будучым.

Напрыканцы першага дня працы дэлегатаў і гасцёў VI Зьезду Беларусаў Сьвету прыкладна з 19.45 чакала культурніцкая праграма, якую дачакалася вялікая колькасьць удзельнікаў менскага форуму.

Перад прысутнымі выступілі сучасныя беларускія гурты "Сваё Неба", "PAWA" і "Палац", а таксама паэты, сьпевакі ды песенныя калектывы беларускай дыяспары замежжа.

Пасьля невялікай прамовы вядучых канцэртную праграму распачаў ансамбль аўтэнтычнай народнай песні "Крывічы" (Іркуцк, Расія). **Асабліва працяглымі апладысментамі і воклічамі "Жыве Беларусь!" былі сустрэтыя дуэт з Чэхіі (баян, дуда, вакал)** і гурта "PAWA".

VI зьезд беларусаў сьвету ў Менску працягваў сваю працу два дні. Сёлета ў ім узялі ўдзел дэлегаты з 21-ой краіны сьвету.

Магчымасьці ўнутраных сілаў Беларусі і дыяспары ва ўмацаваньні нацыянальнай ідэнтычнасьці, "новая" і "старая" эміграцыі: супраца на карысьць нацыянальнага развіцьця, культурная спадчына беларускага замежжа. Такія тэматычныя секцыі завершылі сваю працу на шостым зьездзе Згуртавання Беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў Менску.

Сябра Рады арганізацыі **Юрась Меляшкевіч** распавёў пра вынікі працы секцыі ў культурніцкай галіне:

*- Узровень сёньняшняй выдавецкай дзейнасьці на замежжа шмат у чым не саступае таму, што робіць беларуская грамада ўнутры краіны. Гэта праца ў іншых умовах, бо яны больш разьняволеныя. Безумоўна, ёсьць пэўная творчая свабода, робіцца шмат цікавых інавацыйных праектаў, якіх нам у Беларусі не стае.*

У другой палове дня праходзіла прыняцьце выніковых дакументаў і выбары кіроўных органаў "Бацькаўшчыны". Пасля закрыцця зьезду чакаецца пасяджэньне новаабранай Вялікай Рады і сяброўская вечарына.

У другой палове дня на VI зьездзе Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" адбывалася праца ў секцыях. З прамовамі па загадзя вызначаных пытаньнях выступалі дэлегаты і госьці зьезду. Адчувалася заклапочанасьць удзельнікаў за лёс мовы, культурнай і гістарычнай спадчыны, пытаньнямі захаваньня і ўмацаваньня суверэнітэту Беларусі, гучалі канкрэтныя прапановы пра пашырэньні сувязяў грамадзкай супольнасьці Беларусі зь беларускімі дыяспарамі замежжа.

Пасьля працы ў секцыях, у свабодны час да вячэры і пасьля, удзельнікі мерапрыемства працягвалі актыўна абменьвацца думкамі, ідэямі, кантактамі, фатаграфаваліся на памяць. Шмат хто знаёміўся з публікацыямі ў прэсе, матар'яламі на спэцыяльна падрыхтаваных інфармацыйных стэндах, літаратураю, набывалі сувеніры і вырабы беларускіх народных промыслаў.

Другі дзень зьезду Згуртаваньня беларусаў "Бацькаўшчына" пачаўся ў Менску. У праграме ў першай палове дня – прэзентацыя праектаў і кніг беларусаў замежжа, падагульненьне працы секцый, выступленьне дэлегатаў. Кіраўнік ЗБС "Бацькаўшчына" **Алена Макоўская** адзначыла, што важна, каб афіцыйныя дзяржаўныя прадстаўнікі пачулі пра тыя праблемы і тыя прапановы, якія маюць беларусы замежжа:

*- Мы спадзяемся, што тыя прапановы, якія былі і будуць агучаныя на гэтым зьезьдзе, улічаць прадстаўнікі нашых дзяржаўных структур, калі будзе выпрацоўвацца пэўная дзяржаўная палітыка адносна беларусаў замежжа. Самае важнае пытаньне, мне падаецца, мы разглядаем на гэтым зьезьдзе, гэта тыя магчымасьці і тыя праблемы, якія тоіць у сабе глабалізацыя для беларусаў. Гэта пытаньне захавання і развіцця беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці. Таму што гэта базавы элемент, які дазваляе нам супрацьстаяць асіміляцыі.*

*"Важным зьяўляецца таксама прыняцьце Закону аб беларусах замежжа і Дзяржаўная праграма падтрымкі беларусаў у сьвеце"*, - дадала Алена Макоўская. Зь яе словаў, гэта зьяўляецца падмуркам захаваньня беларускай дыяспары.

* * *

Працягваецца VI зьезд Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ў беларускай сталіцы. Праблемы захаваньня беларускай мовы па-за межамі краіны, прыняцьце закону аб беларусах замежжа, пашырэньне ведаў грамадзтва пра беларускія нацыянальныя меншасьці – такія асноўныя пытаньні, вынесеныя на абмеркаваньне ўдзельнікаў мерапрыемства. Старшыня рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» **Ніна Шыдлоўская** лічыць неабходным прыняцьце нарматыўнага дакументу аб беларусах замежжа на дзяржаўным узроўні:

*– Самыя важныя пытаньні, якія «Бацькаўшчына» ўздымае ўжо з 2000 году, і на кожным зьезьдзе гэта гучыць з прапановаў дэлегатаў – гэта прыняцьце заканадаўства, нарматыўна-прававой базы адносна дачыненьняў Рэспублікі Беларусь і беларусаў замежжа. Гэта важнае пытаньне, якое б спрыяла і стымулявала беларусаў актыўнічаць менавіта апраўляючы сваю беларускасьць у суполцы. Не як асобны грамадзянін, які седзячы ў сваёй хаце адчувае, што*

*ён беларус, а менавіта праяўляць сваю прысутнасьць*

.Старшыня вашынгтонскага гуртка Беларуска-амерыканскага Задзіночаньня **Алеся Кіпель** лічыць, што асаблівая ўвага павінна надавацца захаваньню беларускай мовы па-за межамі Беларусі:

*– Самае важнае – гэта беларуская мова. Без сваёй мовы цяжка быць нацыяй. Трэба, каб мы ўсё рабілі, каб больш ужывалася беларуская мова. Я думаю, што гэта самае важнае пытаньне для такога зьезду як гэты.*

Па завяршэньню першага дня працы зьезду была арганізаваная праца ў секцыях дэлегатаў і гасьцей, а таксама прайшоў сьвяточны канцэрт з удзелам беларускіх выступоўцаў зь Беларусі і замежжа.

Кіраўніцтва краіны разглядае беларускую дыяспару ў замежжы, якая складае больш за 3 мільёны чалавек, як "неад'емную частку Беларусі", сказаў 23-га ліпеня на адкрыцьці VI зьезду беларусаў сьвету "ЗБС "Бацькаўшчына" **міністр культуры** Беларусі **Барыс Сьвятлоў.**

Паводле ягоных слоў, сёньня пэўная група беларусаў замежжа пазітыўна ўспрымае становішча Беларусі. Іншыя крытычна адносяцца да палітычных і эканамічных працэсаў, што тут адбываюцца. Аднак, адзначыў чыноўнік, усе яны "любяць саму Беларусь, яе багацейшую і нявычарпальную культуру".

Словы міністра культуры пракаментаваў старшыня Беларускага Саюзу ў Польшчы **Яўген Вапа,** які ня змог трапіць на зьезд у Менску дзеля забароны на ўезд на тэрыторыю духоўнай Бацькаўшчыны:

*- Вельмі цешуся, што спадар міністр лічыць важнасьць беларусаў, якія жывуць па-за межамі Беларусі, і іх ролю ў беларускай культуры. Толькі хацелася б, каб беларускай па зьместу культуры было больш у самой Рэспубліцы Беларусь. Сёньня ў Беларусі адбываецца татальная русіфікацыя. Таму добра было б даць станоўчы прыклад таго, што дзяржава бярэ на сябе адказнасьць быць па зьместу беларускай. Патрэбныя факты, а не прыгожыя словы!*

Сёньня дыяспара можа забясьпечыць прэзентацыю беларускай культуры за мяжой, лічыць міністр культуры Беларусі. Ён упэўнены, што прадстаўнікі дыяспар таксама могуць дапамагчы ў прыцягненьні замежных інвестыцый у культуру Беларусі.

Шосты зьезд Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" гасьцінна адчыніў свае дзьверы ў Менску. Усяго ў зьезьдзе прымаюць ўдзел дэлегаты беларускіх дыяспар з 21 краін сьвету, сярод якіх больш за дзьве сотні чалавек з замежжа і каля 140 чалавек зь Беларусі. Тэмаю зьезду стала **«Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасьці».**

Дэлегат зьезду **Маргарыта Пярова** з роду Луцкевічаў з Санкт-Пецярбургу распавяла пра значэньне такога сьвята для беларусаў з замежжа:

*- Паколькі я была на ўсіх зьездах, то гэта для мяне сьвята: трапіць на радзіму, пабыць тут, дзе зьбіраюцца сапраўдныя беларусы, паслухаць сваю родную мову – адчуць сьвята.*

Дэлегат **Збігнеў Анташэўскі** з Польшчы адзначыў, што зьезд дапамагае яшчэ раз сябе адчуць часткаю Беларусі і беларускай нацыі:

*- Гэта вельмі важная падзея, таму што, сапраўды, усе мы раскіданыя па ўсім сьвеце, і тут гэтая сувязь з беларускай культурай, зь беларускай мовай, яе выкладаньне ў некаторых краінах практычна няма, гэта трэба паставіць неяк на больш высокім узроўні, інакш беларуская мова зьнікне.*




Сярод дэлегатаў - **Радзім Гарэцкі, Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская** зь Беларусі, **Хведар Нюнька** з Літвы і **Алег Рудакоў** з Расіі. 23 ліпеня ў праграме зьезду адбылося чытаньне дакладаў па асноўнай тэме зьезду, а таксама справаздачны даклад пра дзейнасьць МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", выступленьне дэлегатаў зьезду ды шмат інш.

Па словах аднаго з удзельнікаў зьезду старшыні Беларускага культурна-асьветніцкага цэнтру ў Познані **Віталя Воранава**, тэма зьезду надзвычай актуальная:

*- Глабальныя праблемы Беларусі, можа, не закранулі так, як Заходняй Еўропы, але пэўныя праблемы таксама існуюць і пагражаюць. Таму гэта добра, што ўжо сёньня мы хочам гаварыць пра гэта. Я спадзяюся, што размова будзе ня ў рэчышчы палітычнай карэктнасьці. Мы зможам сапраўды задумацца над асноўнымі праблемамі і пагрозамі і паспрабуем знайсьці сапраўднае вырашэньне гэтых праблем.*

Зьезды беларусаў сьвету праходзяць, пачынаючы з 1993 году, кожныя чатыры гады. Арганізатарам зьезду зьяўляецца Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

* * *

.На думку арганізатараў зьезду, абраная праблематыка абумоўлена аб'ектыўнымі працэсамі, якія адбываюцца ў сучасным сьвеце, калі назіраецца ўзмацненьне працэсаў глабалізацыі. У гэты час моцна павялічваецца значэньне нацыянальных дыяспараў. У новых умовах беларускія дыяспары сутыкаюцца: з размываньнем нацыянальнай ідэнтычнасці, касмапалітызмам значнай часткі новых эмігрантаў і змяншэньнем цікавасьці да нацыянальнай дзейнасьці сярод моладзі.

У межах зьезду прадугледжана праца трох секцый: гэта **"Магчымасці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспар па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці", "Новая" і "старая" іміграцыі: супраца на карысць нацыянальнага развіцця",** і нарэшце **"Культурная спадчына беларускага замежжа".**

Зьезды беларусаў сьвету закліканы спрыяць яднаньню нацыі, умацаваньню сувязяў паміж беларусамі з розных краінаў, а таксама дапамагаць у вырашэньні актуальных праблемаў.

Беларускае Радыё Рацыя, Менск, 24-га ліпеня 2013 г.

# Дэвід Суорц, першы амбасадар ЗША ў Беларусі (1992-1994), заклікаў урад ЗША прызнаць Раду Беларускай Народнай Рэспублікі як легітымную ўладу Беларусі.

Свой зварот Дэвід Суорц агучыў на XXVIII сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая адбылася ў Нью-Ёрку 2 чэрвеня.

На пачатку свайго выступу на сэсіі Дэвід Суорц заявіў: «Палітыка Амэрыкі адносна Беларусі, пачынаючы зь сярэдзіны 1990-х гадоў, ня мела амаль ніякага станоўчага ўплыву на дыктатарскі рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Яго аўтакратычнае кіраваньне ператварылася ў асабліва жорсткі і дыктатарскі рэжым.

ЗША афіцыйна заявілі, што прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ў сьнежні 2010 году прайшлі з сур'ёзнымі парушэньнямі і, адпаведна, Лукашэнка не зьяўляецца легітымным прэзыдэнтам Беларусі. Ён адказаў самымі жорсткімі да гэтага часу рэпрэсіямі супраць дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі.

Для Злучаных Штатаў прыйшоў час пашукаць сапраўды дэмакратычнага прадстаўніцтва Беларусі ў іншым месцы. Кажучы канкрэтна — ды з усёй сур'ёзнасьцю і адказнасьцю за словы — я заклікаю Злучаныя Штаты надаць фармальнае дыпляматычнае і юрыдычнае прызнаньне Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі як законнай уладзе краіны».




*Амбасадар Дэвід Суорц, Івонка Сурвілла*

Далей Дэвід Суорц коратка нагадаў гістарычныя абставіны ўзьнікненьня Рады БНР, адзначаючы, што ад 1919 году Рада БНР дзейнічае як дэмакратычны ўрад у выгнаньні, які ўключае ў сабе як выканаўчы, так і заканадаўчы кампанэнты. Пад канец 2012 году, дадаў Суорц, лідэры беларускай апазыцыі падпісалі са старшынёй Рады БНР мэмарандум, «у якім прызналі вядучую ролю Рады БНР у вяртаньні свабоды і дэмакратыі ў Беларусі ды паабяцалі сваю поўную падтрымку і супрацоўніцтва».

Паводле Суорца, існуюць шматлікія прэцэдэнты ў дыпляматычнай гісторыі ЗША, калі Вашынгтон прызнаваў урады ў выгнаньні. У гэтай сувязі былы амэрыканскі дыплямат нагадаў прызнаньне, якое ЗША надалі польскаму ўраду ў выгнаньні пасьля захопу Польшчы нацысцкай Нямеччынай у 1939 годзе.

Суорц таксама прывёў прыклад дыпляматычнага прызнаньня, нададзенага Вашынгтонам урадам незалежнай Літвы, Латвіі і Эстоніі, якія апынуліся ў выгнаньні пасьля далучэньня Сталінам гэтых краінаў да СССР.

Суорц спасылаецца на яшчэ адзін прэцэдэнт у найноўшай дыпляматычнай гісторыі ЗША (які называе «рызыкоўным»), калі амэрыканскі ўрад у сьнежні летась прызнаў апазыцыйную кааліцыю ў Сырыі як легітымнага прадстаўніка гэтай краіны на міжнародным форуме.

Адзначыўшы гэтыя прэцэдэнты, Суорц заключыў свой выступ на сэсіі Рады БНР наступным чынам: «Па іроніі лёсу, рызыка і выклікі, якія стаяць перад ЗША пасьля свайго рашэньня адносна Сырыі, паказваюць шлях, якім трэба ісьці, каб вырашыць беларускую галаваломку.

У Беларусі не-прэзыдэнт Лукашэнка (гэта афіцыйны амэрыканскі погляд) кіруе краінай з штораз большай тыраніяй з 1994 году (калі ён перамог на прэзыдэнцкіх выбарах, якія тады магчыма было разглядаць як свабодныя і справядлівыя). На працягу шматлікіх гадоў ЗША патрацілі дзясяткі мільёнаў даляраў на неэфэктыўныя, а на самай справе контрпрадуктыўныя праекты „дапамогі". У выніку атрымалі дыктатара, які, як падаецца, цяпер кантралюе краіну яшчэ мацней, чым тады, калі прыйшоў да ўлады. Наступствы прэзыдэнцкіх „выбараў" у сьнежні 2010 году — разьвязаны Лукашэнкам тэрор КДБ, ад якога ня быў застрахаваны ніхто, уключна з кандыдатамі ў прэзыдэнты — прадэманстраваў сумную праўду, што Захад няздольны ажыцьцявіць пазытыўныя грамадзкія перамены ў Беларусі.

Настаў час для больш радыкальнага падыходу, цалкам у адпаведнасьці з амэрыканскай палітыкай у гэтым рэгіёне ў мінулым ды зь нядаўнім прэцэдэнтам у Сырыі.

Віленскі мэмарандум, які фармальна злучае БНР у выгнаньні з ключавымі палітычнымі сіламі апазыцыі ўнутры краіны, дае Вашынгтону унікальную магчымасьць. Няхай цяпер ЗША пашлюць Лукашэнку і ягоным паслугачам магутны сыгнал няпрызнаньня. Давайце прызнаем беларускі ўрад у выгнаньні і яго саюзьнікаў у краіне, якія ўвесь час падзяляюць нашы традыцыйныя каштоўнасьці дэмакратыі і павагі да правоў чалавека. Няхай нашы адноўленая абавязаньні адносна дэмакратычнага адраджэньня Беларусі дойдуць да ведама ўсіх тых у суседзтве краіны і далей, якія разглядаюць Беларусь у якасьці пешкі ў той ці іншай цынічнай геапалітычнай гульні».

# Кожны народ можа найпаўней выявіць сябе толькі ў форме нацыянальнай дзяржавы

*Генадзь Бураўкін*

Прызначэньне на пасаду прадстаўніка Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ня было для мяне запланаваным паваротам лёсу. Наадварот, гэта была поўная нечаканасьць. У савецкім грамадстве ў тыя часы пачаліся працэсы дэмакратызацыі. У Беларусі абудзіліся новыя інтэлектуальныя сілы, зьявіліся новыя грамадзкія арганізацыі, у прыватнасьці – Беларускі Народны Фронт.

Я, як кіраўнік дзяржтэлерадыё, лічыў сваім абавязкам інфармаваць пра гэтыя працэсы і дыскусіі ў нашых праграмах. Мы давалі слова Зянону Пазьняку, гаварылі пра зьезд БНФ у Вільні, арганізацыю "Мемарыял" і нават, хоць і ня надта шырока, – пра падзеі каля Маскоўскіх могілак. Усё гэта выклікала вялікія прэтэнзіі з боку тагачасных ідэалагічных кіраўнікоў. Паводле іх, нельга было даваць слова Пазьняку і наогул гаварыць пра падзеі, якія выбіваліся са звыклага рэчышча савецкай штодзённасьці.

Паколькі я з гэтым пагадзіцца ня мог, я прапаноўваў нашым ідэалагічным босам выступіць у адказ Зянону Пазьняку, пры гэтым у куды шырэйшым часовым фармаце. Канешне, ні на што падобнае яны пайсьці не маглі, і канфлікт між намі стаў відавочным. Былі розныя спробы выжыць мяне з пасады. Толькі я ня зьбіраўся здавацца, хоць і разумеў, што мне не дадуць спакойнага жыцьця. Як раз у гэты час мне прапанавалі працу прадстаўніка Беларускай ССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Разумеючы тагачасны палітычны клімат у БССР, пасьля доўгіх развагаў я пагадзіўся і аказаўся ў Нью-Ёрку, будучы абсалютна непадрыхтаваным да дыпламатычнай работы.

Гэты перыяд для мяне быў даволі няпростым і складаўся з двух этапаў: спачатку я быў прадстаўніком БССР, а потым ўжо прадстаўляў незалежную Беларусь. Калі я прадстаўляў БССР значэньне маёй пасады, як, зрэшты, і роля нашай рэспублікі ў ААН, былі даволі сьціплымі. Усё вырашаў прадстаўнік СССР. На маё шчасьце, тагачасным прадстаўніком СССР пры ААН быў выдатны дыпламат Юлій Міхайлавіч Варанцоў. Гэта быў ня толькі вопытны амбасадар, але і вельмі інтэлігентны чалавек, які ставіўся да мяне зь вялікай прыязнасьцю і дапамагаў там, дзе мне не хапала ведаў ці інтуіцыі. Я пераканаўся, што сапраўды значэньне нашых дыпламатаў, якія працавалі ў Нью-Ёрку, скажам шчыра было чыста фармальным. Таму прадстаўнікі іншых краін з намі ня надта і раіліся, калі рыхтаваліся праекты важных рашэньняў, бо было вядома, што як вырашыць прадстаўнік Савецкага Саюзу, так і будуць сябе паводзіць прадстаўнікі Украінскай ССР і Беларускай ССР. Гэта была рэальнасьць: у нас ня было ня толькі самастойнай дыпламатычнай палітыкі, але і сваёй дыпламатычнай школы. Калі ў тых жа ўкраінцаў проста колькасна было болей падрыхтаваных для замежнай працы людзей, то ў беларусаў нават колькасна такая група была зусім маленькай. Акрамя Прадстаўніцтва пры ААН ніякіх іншых дыпламатычных прадстаўніцтваў Савецкай Беларусі ў сьвеце тады не было.

Аднак, з абвяшчэньнем Беларусьсю незалежнасьці сітуацыя карэнным чынам зьмянілася. Да нас, прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь, пачалі ставіцца зусім па-іншаму: калі рыхтаваліся дакументы, да нас загадзя падыходзілі параіцца і прасілі выказаць сваю пазіцыю. Мы сталі практычна раўнапраўнымі сярод калег і пачалася сур'ёзная дыпламатычная работа. Але нам не хапала ні вопыту, ні кадраў, ні нават разуменьня таго, што пры належных намаганьнях нашы інтарэсы цалкам ці часткова будуць улічаныя. У самой Беларусі большасьці чыноўнікаў і дэпутатаў не хапала адчуваньня самастойнасьці, таго, што мы незалежная дзяржава! Заставалася аглядка, на Маскву ці на іншыя цэнтры сусьветнай палітыкі. А вось да самастойнасьці даводзілася прывучаць і сябе, і іншых.

Варта памятаць, што ў той час наша краіна зьмяніла сваю назву з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. У выкарыстаньні новай англамоўнай назвы наша пазіцыя была такой, што мы павінны прывучаць сьвет, каб нас называлі так, як мы называем сябе самі. Гэта было пэўнай праявай характару і я веру, што нашы нашчадкі ацэняць слушнасьць такога нашага рашэньня.

Адным з маіх найлепшых дыпламатычных дасягненьняў я лічу тое, што мы пачалі сур'ёзна кантактаваць зь беларускай дыяспарай. Вядома, што ў Нью-Ёрку былі асноўныя інтэлектуальныя сілы беларускай эміграцыі і наогул гэта быў адзін з найактыўнейшых і найуплывовейшых яе асяродкаў. Для мяне было адкрыцьцём, што наша эміграцыя – гэта далёка не такая супольнасць, якой яна нам у БССР уяўлялася. Так атрымалася, што ў Савецкай Беларусі за доўгія дзесяцігодзьдзі многія людзі былі прапагандаю выхаваны так, што практычна лічылі эмігрантаў ворагамі. Як вынік, у нашых замежных суайчыньнікаў было насьцярожанае стаўленьне да нас як да прадстаўнікоў Савецкага Саюзу, а ў нас – да іх, бо мы ня ведалі, хто яны, чым яны жывуць, як яны трапілі за акіян. Многія ў Беларусі нават і зараз не задумваюцца, што аснова эміграцыі – гэта дастаткова маладыя людзі, якія пры ўсіх гістарычных варунках не маглі свае рукі запэцкаць крывёю землякоў.

Я прыгадваю, як Наталля Арсеннева і Масей Сяднёў прызнаваліся мне, што пры першым знаёмстве са мной адчувалі няёмкасьць, бо я быў для іх чалавекам з той Савецкай Беларусі, ад якой яны акрамя абразаў і лаяньня нічога да сябе не адчувалі. І толькі пасьля да іх прыйшло разуменьне, што, нягледзячы на рознасьць нашых лёсаў нас яднала і збліжала Беларушчына – беларуская мова, культура, гісторыя. Такое ж у пэўнай ступені было і ў адносінах зь Вітаўтам Кіпелям, Янкам Запруднікам, Антонам Шукелойцем. Таму гэтае адчуванне еднасьці і адданасьці Радзіме і роднаму народу дазволіла нам паразумецца. У нас атрымалася ня проста супрацоўніцтва, але часам і сяброўства. Мы запрашалі нашу эміграцыю на ўсе мерапрыемствы, якія ладзілі ў Прадстаўніцтве, і яна заўсёды з радасьцю адгукалася. Асноўны акцэнт мы рабілі на культуры. Мы адзначалі юбілеі Купалы, Коласа, Багдановіча, да нас прыяджжалі з канцэртамі "Песняры" і "Сябры". Наша эміграцыя бачыла, як нам гэта дорага, а мы – як гэта дорага і ім. І ў дачыненьнях з дыяспарай я па-сапраўднаму зразумеў, што такое мова ў лёсе чалавека і краіны. Калі ты жывеш сярод чужых людзей у чужой краіне і чуеш роднае слова, яно для цябе як пароль і пасведчаньне. Жывучы ў Беларусі, мы гэтага часта не адчуваем. Сярод іншых народаў можна вызначыцца тэхналогіямі, эканомікай, але самая галоўная адметнасць – мова. Яна робіць цябе непадобным да іншых, годным і паважаным у сьвеце.

Таму, што ў нас наладзіліся добрыя адносіны з беларускай дыяспарай, спрыяла і прыязнае стаўленьне да эміграцыі тагачаснага міністра замежных справаў Беларусі

Пятра Краўчанкі. Важным фактарам збліжэньня было тое, што эміграцыя пабачыла, што ў Беларусі абудзілася беларускасьць, хай сабе і не ў такіх маштабах як хацелася, прычым ня толькі сярож вяскоўцаў і інтэлігенцыі, а і сярод некаторых вышэйшых чыноўнікаў, такіх, як прэм’ер Кебіч ці той жа Краўчанка. Таму, калі бел-чырвона-белы сьцяг і герб “Пагоня” былі зацьверджаныя Вярхоўным Саветам у якасьці дзяржаўных сімвалаў, покуль мы ўзгаднялі і замаўлялі выраб сьцягу, адпаведны ўсім канонам сьцягоў, што вісяць каля штаб-кватэры ААН, нашы эмігранты прынесьлі нам свой бел-чырвона-белы сьцяг.

У тыя гады ўпяршыню за доўгі перыяд нашы суайчыньнікі пачалі езьдзіць на Радзіму. Можна сказаць, тады панаваў узьнёслы, радасны настрой як сярод эмігрантаў, якія атрымалі магчымасьць наведаць сваіх родных і блізкіх, так і сярод некаторых афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі, бо яны пабачылі ў эмігрантах добрых людзей, суайчыньнікаў, якія хацелі дапамагаць Радзіме, чым маглі. Я ўспамінаю тыя гады як шчасьлівы перыяд у нашых дачыненьнях.

На жаль, апошнім часам сувязі аслабелі і зноў пачынаюць зацягвацца імжой дзяржаўнага недаверу. Вяртаюцца ня лепшыя настроі насцярожанасьці і падазронасьці. Згадваю шчырага беларускага патрыёта Масея Сяднёва, несправядліва і жорстка пакрыўджанага савецкай уладай. Ён знайшоў у сабе сілы даравацъ Беларусі тое, як яна зь ім абыйшлася, і быў рады наведаць родныя мясьціны. А чаму ж Беларусь як дзяржава не хоча даравацъ гэтаму чалавеку, нават калі ў яго і была нейкая віна перад ёю? Што гэта за бесчалавечная ўлада, якая патрабуе, каб ёй даравалі ўсё, што яна нарабіла, нават калі гэтыя дзеянні былі відавочна несправядлівымі і антыбеларускімі, а сваім грамадзянам не даруе нічога? І мне трывожна, што нягледзячы на колькаснае павялічэньне эміграцыі, часам не даводзіцца казаць пра ўмацаваньне традыцыяў шчырай адданасьці самаму галоўнаму – Беларушчыне.

Ня спрыяе гэтаму і цяперашняя практыка беларускіх уладаў, якую можна вызначыць як стараньне вярнуцца ў савецкія часы з недаацэнкай нацыянальнага складніку, а часта і барацьбой зь ім. Я не скажу, што пра Беларусь сталі менш ведаць і гаварыць. Аднак, нас прыгадваюць часта як краіну, якая хоча павярнуць гісторыю назад, як апошнюю дыктатуру ў Эўропе. Галоўная “заслуга” ў гэтым найперш вышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва. Ды і як ні горка мне пра гэта гаварыць, у многім віну я ўскладаю і на мой родны народ, за тое, што ён церпіць націск, які на яго робяць. Беларусам, як мне здаецца, часамі не хапае рашучасьці аднойчы гукнуць: “Хопіць! Мы – цывілізаваная краіна! Наша своеасаблівасьць у нашай гісторыі, нашым характары, і мы нікому не дамо за нас вырашаць наш лёс!” Найяскравейшай ілюстрацыяй таго, што адбываецца ў краіне, па-мойму, зьяўляецца так званая “Лінія Сталіна” з яе фальшаванай трактоўкай падзей Вялікай Айчыннай вайны. “Лінія Сталіна”, на жаль, праходзіць праз усю дзяржаўную ідэалогію, хоць і ня так адкрыта як раней. І мне трывожна за будучыню нашай дзяржавы. Я лічу, што кожны народ можа найпаўней выявіць сябе толькі ў форме нацыянальнай дзяржавы, бо менавіта ў межах нацыянальнай дзяржавы народ атрымлівае ўсе магчымасьці рэалізаваць свае таленты, паказаць сваю своеасаблівасьць і забясьпечыць самому сабе вартае жыццё.

## СПОРТ

Заўзятарам дазволяць праносіць бел-чырвона-белыя сьцягі на трыбуны, але нельга будзе імі размахваць, такое кампрамiснае рашэньне прыняла Міжнародная федэрацыя гакею.

Гэта стала вынікам кампаніі пратэсту, якую разгарнулі беларусы. Яны засыпалі гакейную федэрацыю лістамі з крытыкай забароны карыстаньня бел-чырвона-белымі сьцягамі на матчах. Яе ўвялі з падачы лукашэнкаўскіх чыноўнікаў. У адказ  у Стакгольме адбыўся пікет у падтрымку бел-чырвона-белых сцягоў.

Падчас пікету ад шведзкіх журналістаў стала вядома, што Міжнародная гакейная федэрацыя дазволіла праносіць бел-чырвона-белыя сьцягі на матч, але іх рэкамендуецца трымаць на плячах, размахваць імі нельга.

Нагадаем, 5 траўня на матчы Беларусь-Славенія, які праходзіў у Швецыі ў рамках Чэмпіянату сьвету па гакеі, за спробу разьвярнуць вялізны бел-чырвона-белы сьцяг двум хлопцам-беларусам паліцэйскія выкруцілі рукі і вывелі іх з арэны.

Днём раней на матчы Беларусь - Чэхія беларускія заўзятары разьвярнулі гіганцкі бел-чырвона-белы сьцяг і харугвы з выявай гербу«Пагоня». Арганізатары чэмпіянату свету ў Швецыі выклікалі на трыбуны, дзе сядзелі беларускія заўзятары, паліцыю. Калі паліцыя паспрабавала згарнуць бел-чырвона-белыя сьцягі, на абарону беларусаў усталі шведзкія заўзятары. У выніку забароненыя ўладамі сімвалы засталіся на трыбунах да канца матчу.

Паводле: Аляксей Дзікавіцкі, belsat.eu



*Пікет у падтрымку бел-чырвона-белых сьцягоў на вуліцах Стакгольму*

## Беларус Гальчанюк здабыў бронзу камандзе ЗША

На чэмпіянаце сьвету па гакеі ў Стакгольме зборная ЗША выйграла ў каманды Фінляндыі па булітах і заваявала бронзавыя мэдалі. Рашаючы гол забіў 19-гадовы Алекс Гальчанюк, які кожнае лета праводзіць у Менску ў бабулі зь дзядулем.

Алекс Гальчанюк — сын вядомага беларускага гакеіста Аляксандра Гальчанюка, які у свой час пасьпеў згуляць за зборную СССР, а ў 1998 годзе выступаў за зборную Беларусі на Алімпіядзе ў Нагана.

Яго сын Алекс нарадзіўся ў ЗША ў 1994 годзе і нядаўна запрошаны ў самы тытулаваны клюб НХЛ «Мантрэаль Канадыенс».

Падчас сёньняшняга матчу зь фінамі амэрыканцы, выконваючы буліты, забілі толькі двойчы. І абодва разы аўтарам голу быў Алекс Гальчанюк.

Асноўчы час матчу скончыўся зь лікам 2:2. Дадатковыя 10 хвілін выніку не прынесьлі.

Сёлета ў студзені Алекс стаў чэмпіёнам сьвету ў складзе моладзевай зборнай ЗША.

## Беларусы Эўразьвязу

### Яўген Вапа: Беларусам пагражае лукашызацыя, а не глабалізацыя

***Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі** - тэма сёлетняга шостага зьезду беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Не глабалізацыя, а лукашызацыя і русіфікацыя пагражаюць сёньня беларускай нацыі. Трэба разумець, што чарговы зьезд ня вырашыць праблемаў беларусаў замежжа, бо праблемы перадусім маюць беларусы ў самой Беларусі, заявіў старшыня "Беларускага саюзу Польшчы" **Яўген Вапа.***

**РР:** Якія выклікі ва ўмовах глабалізацыі стаяць перад беларусамі Беласточчыны?

- Мне здаецца, што сёньня найважнейшай праблемай, якую маюць беларусы ў Беларусі і за яе межамі – гэта не глабалізацыя, а лукашызацыя. Я разумею ўсе абставіны, тонкасьці гэтага сходу. Асноўнай праблемай для нас, як для беларускай нацыі, зьяўляецца наступаючая лукашызацыя і русіфікацыя беларускага народу, беларускага насельніцтва – гэта тэма пра якую мы павінны гаварыць, пра гэтую зьяву мы павінныя казаць адкрыта. Бо калі мы, напрыклад, хворыя ракам, то нельга казаць, што гэта з-за невялічкай балячкі на руцэ, таму мы павінныя пра гэта памятаць і ведаць. Калі гаварыць пра тое, якія спадзяваньні, то перадусім трэба быць рэалістам, трэба сыходзіць з гэтай рэальнасьці. Заўсёды трэба памятаць выказваньне амерыканскага прэзідэнта: "Ня пытай, што Амерыка зрабіла для цябе, а што ты зрабіў для Амерыкі", менавіта па такім прынцыпе, толькі зьмяняючы назву краіны, жывуць і працуюць беларусы па-за межамі Беларусі. Ніхто нічога не чакае, бо ведаюць, што трэба захоўваць сябе, тым самым робячы ўнёсак у разьвіцьцё нашай духоўнай Бацькаўшчыны. Кажучы пра тое, як усё павінна выглядаць і адбывацца, то зьезд зьяўляецца вельмі важным, але калі гаварыць пра ўздзеяньне, рычагі, якія ёсьць у руках арганізацыі, пра тое, чым арганізацыя можа дапамагаць беларусам за межамі, то бачым тую мізэрнасьць, бо ўсе гэтыя рычагі знаходзяцца паўсюдна, але толькі не ў грамадзкім аб'яднаньні Згуртаванне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

**РР:** Маю ўражаньне, што мінулы зьезд дадаў зашмат аптымізму. Тады спадзяваньняў было вельмі многа, але ці апраўдаліся гэтыя спадзяваньні на вашую думку?

- Аптымізму ня было, бо сітуацыя была дрэннай, і пасьля яна не зьмянялася, таму мы ня былі аптымістамі, а былі рэалістамі, бо нас навучыла гэтаму жыцьцё. Вядома, што чалавек, які хоча мець надзею, хапаецца і за лязо, таму такія і спадзяваньні. Гэта духоўная сустрэча, якая выклікае шмат эйфарыі, эмоцыяў, таму зь нашага боку празьмерных захапленьняў ня было. Мы хутчэй атрымалі зарад песімізму, бо што з таго, што на зьезьдзе прысутнічаў дэпутат, а цяпер міністр школьніцтва, фізік з Гародні, былы рэктар Гарадзенскага ўніверсітэту. Ад таго, што ён гаворыць па-беларуску, беларускай мовы ў вузах пабольшала, ці зьявіўся хоць адзін цалкам беларускамоўны - не. Мы бачым, што скарачаецца колькасьць людзей, якія паступаюць на беларускую філалогію ў Гародні, Берасьці, бо на гэта няма запатрабаваньня. А чаму няма запатрабаваньня, бо беларуская мова ня функцыянуе ў сістэме штодзённага жыцьця, ня функцыянуе ва ўніверсітэтах, таму непатрэбныя спецыялісты. Логіка такая, што калі такія спецыялісты непатрэбныя, то трэба скарачаць. Справа ў тым, што колькі там тых філолагаў, але калі б мова была сярод фізікаў, матэматыкаў, хімікаў, медыкаў, эканамістаў, тады б не было прычынаў зьмяншаць колькасць месцаў. Гэта павінна быць шырокая, спецыялізаваная група людзей з вышэйшай адукацыяй, якая выкладае па-беларуску. Што з таго, што быў такі чалавек, бо калі ад яго нічога не залежыць, ён нічога не вырашае. Я памятаю першы зьезд, я быў удзельнікам першага зьезду. Адзін зьезд пасля рэферэндуму, мы, беларусы Беласточчыны цалкам байкатавалі з "Бацькаўшчынай", ня ўдзельнічалі ў зьезьдзе па палітычных прычынах, пасля рэферэндуму 1996 года. Можа быць менавіта таму мы глядзім на пэўныя справы інакш, глядзім на гэта, як на такую рэальнасьць, бо мы ведаем, як павінна працаваць дзяржава зь іншымі меншасьцямі. Адпаведнікі "Бацькаўшчыны" ёсьць і ў іншых краінах, да грамадзянскай, недзяржаўнай установы больш даверу, чым да палітыкаў, якія зьмяняюцца. "Бацькаўшчына" ня мае магчымасьці рэальна працаваць, праводзіць кампанію "Будзьма беларусамі", але "Будзьма беларусамі" ў выпадку "Бацькаўшчыны", павінна быць "Будзьма беларусамі па-за межамі Беларусі" - гэта павінна быць яе асноўным напрамкам працы. Я магу так казаць, але "Бацькаўшчына" ня можа гэтага рабіць, бо ня мае на гэта сродкаў, сродкі ёсьць у дзяржавы, тут замкнёнае кола. Праца аб'яднаньня павінна канцэнтравацца на захаваньні беларускасьці за межамі. Калі казаць пра сітуацыю ўнутры краіны, то на гэта ёсьць унутраныя рэсурсы, якія павінны быць задзейнічаны, каб гэта працавала. Арганізацыя, якая створана для працы з суайчыньнікамі, калі гэтай працы ня будзе, калі ня будзе той духоўнай адкрытасьці вялікай духоўнай Бацькаўшчыны, то колькасць беларусаў па-за межамі будзе катастрафічна зьмяншацца. Доказамі гэтага зьяўляюцца перапісы ў Польшчы, Літве, у Расіі. Калі мы гаворым пра розныя вектары працы, калі беларуская дзяржава дэкларуе аграмадную дапамогу, зараз ідуць кансультацыі па новай праграме, то гэтыя сродкі павінны быць улічаны там, дзе наступае абвал колькасьці беларусаў – гэта значыць "Будзьма беларусамі ў Расіі", там дзе абсалютна зьмяншаецца колькасьць беларусаў. Думаю, што "Бацькаўшчына" была б вельмі важным фактарам такой працы, толькі пытаньне ў тым, ці пойдзе далей за размовы. Набліжаецца зьезд "Бацькаўшчыны", пачынаюцца размовы з боку ўладаў, абяцаньні, а пасьля гэтага ўсё сьціхае. Прыбыцьцё прадстаўніка на зьезд не азначае, што нешта вырашаецца, таксама не даецца важнейшага - інструмента ў рукі арганізацыі. Калі ў "Саюзе беларусаў Польшчы" разглядалася пытаньне паездкі на зьезд "Бацькаўшчыны", то калі на ранейшыя зьезды людзі ахвотна езьдзілі, і жадаючых было занадта шмат, то цяпер усе сталі рэалістамі, і такой колькасьці людзей няма. Едзем, бо хочацца паехаць, але ніякіх ілюзіяў няма. Калі людзі бачаць, што адбываецца,

калі едуць на духоўную Бацькаўшчыну, як да сябе, а прыяжджаючы адчуваюць на сабе падазрэньне, бо вязуць кнігі, выданьні, баючыся перасякаць мяжу зь беларускім словам - гэта ўжо зьдзек. Я не хачу перажываць такі зьдзек, вязучы нумары “Нівы”, якія будуць канфіскаваныя, альбо затрыманьне аўтобусу на некалькі гадзінаў з-за газет. Ёсьць пэўны ўзровень непавагі, які не атрымоўваецца сьцярпець. Калі праходзіць зьезд, то нельга дазваляць, каб людзі, якія вязуць беларускія выданні, аказваліся пад прыцэлам мытных службаў, ці памежных войскаў, якія думаюць, што вязуць нейкую крамольную, антыдзяржаўную прапаганду. Або мы маем “Беларускі дом”, або мы маем містыфікацыю.

**РР:** Вы, а таксама доктар Алена Глагоўская і старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька, зьяўляецеся сябрамі вялікай рады Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, не атрымлівалі дазволу на ўезд у Беларусь. Ці будзеце вы спрабаваць атрымаць візу?

- Мне здаецца, што гэты раз буду проста цешыцца, калі іншыя паедуць і перададуць ад мяне прывітаньні. Гэта ня тое, што пад зьезд нехта дасьць такую магчымасць, я бачу гэта так, або ўсіх нас будуць успрымаць, як нармальных людзей, якія маюць магчымасьць бываць на сваёй духоўнай Бацькаўшчыне, або не, як кажуць: “Адна ластаўка вясны ня робіць”. Калі абразай для краіны становяцца фотаальбомы “Прэс-фота Беларусі”, якія пад пагрозай зьнішчэньня, ідзе працэс над фотакарэспандэнтамі, для мяне ня можа быць большай абсурднасьці. Кожны з нас мае сваё ўяўленьне, крэатыўнае, творчае, бо ня могуць быць толькі фотаздымкі з парадаў, пра разьвіцьцё супрацоўніцтва Венесуэлы і Беларусі, разьвіцьцё турызму ў памежнай зоне, калі факты кажуць пра тое, што іх штораз меньш, бо няма зьменаў - свабоды перасоўваньня, малога памежнага руху. Нельга будаваць дом на лёдзе. Мы хочам, каб наш “Беларускі дом” меў падваліны, хочам, каб ён будаваўся, хоць па-малу, але на грунтоўным падмурку. Я супраць фальшывага будаўніцтва, бо ня бачу ў гэтым сэнсу.

Зміцер Косцін, Беларускае Радыё Рацыя17.04.2013

## Пагляды, Разважаньні

# Рэфэрэндум-95 пра сымболіку і мову ня быў легітымны

**Сяргей Навумчык**

14 траўня 1995 году адбыўся рэфэрэндум па чатырох пытаньнях, прапанаваных А. Лукашэнкам. Як працэдура прызначэньня, гэтак і само правядзеньне рэфэрэндуму адбываліся з парушэньнямі тагачасных Канстытуцыі і законаў.

Упершыню зьмешчана на вэб-сайце Радыё Свабода ў траўні 2009. Абноўлена.

### Сумнеўная легітымнасьць пытаньняў

У сакавіку 1995 года прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка прапанаваў Вярхоўнаму Савету прызначыць рэфэрэндум па наступных пытаньнях:

«Ці згодны Вы з наданьнем рускай мове аднолькавага статусу з беларускай?»

«Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленьні новых Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага эерба Рэспублікі Беларусь?»

«Ці падтрымліваеце Вы дзеяньні прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расейскай Фэдэрацыяй?»

«Ці згодны Вы з неабходнасьцю ўнясеньня зьмяненьняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасьць датэрміновага спыненьня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сыстэматычнага ці грубага парушэньня Канстытуцыі?»

Як пазьней прызнаўся тагачасны кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын, праект таго, што сёньня афіцыйна лічыцца дзяржаўным гэрбам, быў накіданы ў ягоным кабінэце ў пачатку 1994 г. пасьля прыёму ў мітрапаліта Філярэта; на прыёме пілі ня толькі мінэральную ваду.

Аднак тэмы рэфэрэндуму рэалізоўвалі даўнія палітычныя пазыцыі Лукашэнкі.

Яшчэ у пачатку верасьня 1991 года дэпутат ВС Лукашэнка скрытыкаваў абвяшчэньне Незалежнасьці Беларусі, якое адбылося за тыдзень да гэтага, 25 жніўня. Летам 1993 Лукашэнка выступіў за аднаўленьне СССР. У часе выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі 1994 г. ён насіў не «дзяржаўны» бел-чырвона-белы, а «БССРаўскі» чырвона-зялёны дэпутацкі значак і ў сваёй перадвыбарчай праграме дэкляраваў наданьне расейскай мове статусу дзяржаўнай.

### На рэфэрэндум не маглі выносіцца пытаньні нацыянальна-гістарычнай адметнасьці

Паводле артыкулу 78 тагачаснай Канстытуцыі, рэфэрэндум павінен быў праводзіцца ў адпаведнасьці з законам. Прававыя аспэкты рэфэрэндуму рэгуляваліся Законам «Аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме)». Паводле яго, на рэфэрэндум не маглі выносіцца пытаньні нацыянальна-гістарычнай адметнасьці (калі патлумачыць простымі словамі — мова, гістарычныя і нацыянальны каштоўнасьці не належаць сучаснаму пакаленьню, і яно не мае права пазбаўляць іх пакаленьні будучыя, і наогул вырашаць і за продкаў, і за нашчадкаў). Менавіта такімі пытаньнямі зьяўляліся два пытаньні з чатырох, прапанаваных А. Лцукашэнкам: аб статусе беларускай мовы і ад дзяржаўных сымбалях. Варта нагадаць, што якраз на гэтай падставе за некалькі месяцаў да рэфэрэндуму Цэнтральная камісія па выбарах і рэфэрэндумах адмовіла групе грамадзян ў правядзеньні рэфэрэндуму па моўным пытаньні, і пяць парлямэнцкіх камісій далі адмоўныя заключэньні, бо прапанова не адпавядала заканадаўству).

Праект Пастановы ВС аб адхіленьні ініцыяванага Лукашэнкам рэфэрэндуму, прапанаваны дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Сакавік 1995. З архіву С. Навумчыка

Як пазьней адзначаў доктар юрыдычных навук, прафэсар, былы член Канстытуцыйнага Суда Міхаіл Пастухоў, з «палажэньняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь вынікае, што пытаньні, накіраваныя на зьніжэньне дзяржаўных гарантый існаваньня беларускай мовы, у тым ліку шляхам прыніжэньня яе ролі ў параўнаньні з іншымі мовамі, не могуць выносіцца на рэспубліканскі рэфэрэндум. Аналягічную выснову трэба зрабіць і адносна пытаньняў аб зьмене Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба, як пытаньняў, якія замахваюцца на неад’емнае права беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасьць».

Нарэшце, артыкул 17 Канстытуцыі вызначаў беларускую мову як дзяржаўную, а расейскую — як мову нацыянальных зносін. Зьмена іх статусу азначала зьмену Канстытуцыі. Паводле артыкулу 148-2 Канстытуцыі, зьмена Канстытуцыі не магла праводзіцца ў апошнія шэсьць месяцаў паўнамоцтваў дзеючага Вярхоўнага Савета (а выбары новага ВС былі прызначаны ў адзін дзень з рэфэрэндумам, і калі б ВС —13 быў абраны ў поўным складзе, паўнамоцтвы ВС-12 скончыліся б не пазьней чым праз тры месяцы пасьля галасаваньня).

Такім чынам, вынясеньне пытаньняў аб мове і сымбалях парушала артыкулы 17, 78 і 148-2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама Закон «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)».

**Парушэньні у часе прызначэньня рэфэрэндуму**

У адпаведнасьці з законам, рэфэрэндум павінен быў прызначаць Вярхоўны Савет (у той час — ВС 12-га скліканьня). ВС дзейнічаў у адпаведнасьці з Канстытуцыяй і шэрагам законаў, у тым ліку — Законам «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і «Часовым Рэгляментам Вярхоўнага Савета».

У знак пратэсту супраць рэфэрэндуму 19 дэпутатаў Вярхоўнага Савета (членаў Апазыцыі БНФ) раніцай 11 красавіка абвясьцілі галадоўку ў Авальнай залі.

Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Алег Трусаў, Сяргей Навумчык, Барыс Гюнтэр, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Аляксандар Шут, Уладзімер Заблоцкі. За прэзыдэнцкай трыбунай Аляксандар Лукашэнка, у прэзыдыюме старшыня ВС Мечыслаў Грыб і намесьнік старшыні ВС Іван Бамбіза, на трыбуне старшыня камісіі ВС Уладзімер Лаўчык. Авальная заля Дома ўраду, 11 красавіка 1995 г.Фота Сяргея Грыца.

Акцыя дэпутатаў БНФ мела імгненны і вельмі важны вынік: пасьля гэтага тры пытаньня з чатырох, прапанаваных прэзыдэнтам, Вярхоўны Савет не зацьвердзіў (не набралася належнай колькасьці галасоў).

У ноч з 11 на 12 красавіка (пасьля 2-ой гадзіны начы), у будынак Вярхоўнага Савета былі ўведзеныя вайсковыя, міліцэйскія і спэц-падразьдзяленьні ( больш за 600 чалавек), дэпутаты былі зьбітыя групай асобаў у масках , закінутыя ў міліцэйскія аўтамабілі і выкінутыя ў цэнтры Менску (пры гэтым некаторыя былі ізноў зьбітыя).

Факт зьбіцьця праз гадзіну быў зарэгістраваны супрацоўнікамі т.зв. “лечкамісіі«(па вул. Чырвонаармейскай) і пацьверджаны сьледчым па асабліва важных справах Генэральнай пракуратуры Я. Бролішсам (сьледзтву, аднак, не ўдалося ідэнтыфікаваць байцоў, якія непасрэдна зьбівалі дэпутатаў. Паводле пазьнейшага прызнаньня тагачаснага намесьніка старшыні КДБ Валерыя Кеза, гэта былі афіцэры групы КДБ «Альфа»).

«Краінай кіруе прэзыдэнцкая хунта» — заявіў па Свабодзе адразу пасьля зьбіцьця дэпутатаў БНФ Васіль Быкаў.

Толькі пасьля зьбіцьця дэпутатаў Вярхоўны Савет зацьвердзіў чатыры пытаньні, прапанаваныя А. Лукашэнкам на рэфэрэндум.

Паводле прафэсара М. Пастухова, «толькі адзін факт скарыстаньня фізычнай сілы ў дачыненьні да дэпутатаў „людзьмі ў камуфляжнай форме“ (ды яшчэ ў будынку парлямэнта!) ставіць пад сумненьне законнасьць пастановы Вярхоўнага Савета наконт прызначэньня рэфэрэндуму, паколькі рашэньне было прынятае пад прымусам. Само ж увядзеньне ўзброеных людзей у парлямэнт і нападзеньне на дэпутатаў можна кваліфікаваць як захоп улады гвалтоўным чынам».

Такім чынам, працэдура прызначэньня рэфэрэндуму адбывалася з парушэньнем, як мінімум, Закона «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» (паводле якога дэпутат зьяўляецца асобай недатыкальнай) і «Часовага Рэгляманту Вярхоўнага Савета», а таксама Крымінальнага Кодэксу.

**Парушэньні ў часе агітацыі**

Закон «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)» прадугледжваў атрыманьне грамадзянамі поўнай інфармацыі па пытаньнях, вынесеных на галасаваньне, а таксама роўныя магчымасьці агітацыі «за» і «супраць».

Апанэнтам рэфэрэндуму слова не далі.

За некалькі тыдняў, якія папярэднічалі галасаваньню, па дзяржаўных тэле- і радыёканалах ішла суцэльная агітацыя ў падтрымку пазыцыі А.Лукашэнкі. На адным толькі тэлебачаньні працягласьць перадачаў з агітацыяй за пытаньні рэфэрэндуму, паводле маніторынгу, складала дзесяткі гадзін. Апанэнтам слова не далі. На 14 траўня былі прызначаныя таксама выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, і ў адпаведнасьці з заканадаўствам, кандыдаты мелі права на выступ у СМІ. Аднак у выступе кандыдатаў з эфіру выразалася ўсе словы, дзе яны выказваліся супраць прапанаваных А. Лукашэнкам пытаньняў рэфэрэндуму.

Нарэшце, перад галасаваньнем група дэпутатаў ВС (З. Пазьняк, Л. Баршчэўскі, С. Навумчык) зьвярнуліся з афіцыйным запытам да старшыні Дзяржтэлерадыёкампаніі Р. Кісяля з просьбай прадставіць 45 хвілінаў эфірнага часу 13-траўня для выказваньня сваёй пазыцыі па пытаньнях рэфэрэндуму і абвяржэньня інфармацыі, якая папярэдне прагучала ў фільме «Дзеці хлусьні». Эфір прадстаўлены ня быў, хаця гэта гарантавалася дэпутатам Законам «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

Такім чынам, агітацыя ў пытаньнях рэфэрэндуму адбывалася з парушэньнямі Законаў «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)», «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь» і «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

**Парушэньні ў часе галасаваньня**

Пад час самога галасаваньня назіральнікі (прычым афіцыйна зарэгістраваныя) зафіксавалі шматлікія парушэньні.

Парушэньні былі зафіксаваныя на кожным участку, дзе былі назіральнікі ад БНФ (а Народны Фронт выставіў сваіх кандыдатаў у больш як 100 выбарчых акругаў).

Па другім і чацьвёртым пытаньні рэфэрэндуму (дзяржаўныя сымбалі і права прэзыдэнта распускаць парлямэнт) прагаласавала «за» меньш за палову ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў

Так, 21 траўня Сойм БНФ адзначыў, што «галасаваньне па рэфэрэндуме, асабліва ў сельскай мясцовасьці, было сфальсыфікавана выканаўчымі ўладамі і іхнімі прадстаўнікамі ў выбарчых камісіях.Пра гэта сьведчаць шматлікія факты, зарэгістраваныя назіральнікамі як ад Партыі БНФ, так і іншымі. Мы мелі сьведчаньні, што ў шмат якіх сельскіх акругах не прыйшла галасаваць і палова грамадзян, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Колькасьць тых, хто прагаласаваў, была завышаная. І тым ня менш па другім і чацьвёртым пытаньні рэфэрэндуму (дзяржаўныя сымбалі і права прэзыдэнта распускаць парлямэнт. — С.Н.)

прагаласавала „за“ меньш за палову ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў».

Заўважым, што гэта была афіцыйная заява афіцыйна зарэгістраванай партыі, перададзеная ў ЦКВ і не абвергнутая ЦВК.

У часе выбараў ў Беларусі працавала дэлегацыя міжнародных назіральнікаў ад АБСЕ. Назіраньнікі больш сканцэнтраваліся на выбарах, чым на рэфэрэндуме, але паколькі галасаваньне і на выбарах, і на рэфэрэндуме праходзіла адначасова, іх высновы можна аднесьці і да «плебісцыту». Як паведамляла газэта «Свабода», (нумар 20, 19.05.1995), у дзень галасаваньня назіральнікі АБСЭ наведалі больш як 70 участкаў — у Менску і ў рэгіёнах. Міжнародныя назіральнікі адзначылі, што «выканаўчая ўлада неадэкватна ўмешвалася ў некаторыя аспэкты выбарчага працэсу», партыі і кандыдаты ня мелі патрэбнага доступу да СМІ, пра апазыцыйныя партыі і іх кандыдатаў распаўсюджвалася «паклёпніцкая інфармацыя». «Дэлегацыя таксама заўважыла, — адзначалася ў прэсавым рэлізе, — іншыя парушэньні, алі выбаршчыкі бралі. Крэсьлілі і кідалі ў урны па некалькі бюлетэняў як парляманцкіх, так і па рэфэрэндуме». «Выбары ў Беларусі не адпавядалі ўсім міжнародным стандартам свабодных і роўных выбараў» — зрабіла выснову місія назіральнікаў АБСЭ.

Такім чынам, галасаваньне адбывалася з парушэньнем Закона «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)».

**Зацьвярджэньне вынікаў**

Прыкметна, што Вярхоўны Савет 12-га скліканьня нягледзячы на тое, што пасьля рэфэрэндуму выконваў функцыі вышэйшага заканадаўчага воргану краіны яшчэ амаль восем месяцаў (у выніку таго, што ВС 13-га скліканьня ня быў своечасова абраны, паўнамоцтвы ВС-12 скончыліся 9-га студзеня 1996 г.) — не зацьвердзіў вынікаў травеньскага рэфэрэндуму.

Дэпутаты БНФ у ВС 12 скліканьня на чале з Зянонам Пазьняком адразу заявілі пра нелегітымнасьць рэфэрэндуму і непрызнаньне ягоных вынікаў.

Мы заявілі, што бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб «Пагоня» застаюцца дзяржаўнымі сымбалямі

Мы заявілі, што бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб «Пагоня» застаюцца дзяржаўнымі сымбалямі, што статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай не павінен быць зьменены, выступілі супраць палітыкі «інтэграцыі» з Расеяй. Таксама, мы заявілі, што Лукашэнка ня мае права роспуску парляманту і ўвогуле не зьяўляецца легітымным прэзыдэнтам. Былі мітынгі, прэсавыя канфэрэнцыі, выступу ў друку, звароты да заходніх палітыкаў і ў міжнародныя арганізацыі.

Аднак такую пазыцыю падзялілі ня ўсе, хто называў сябе дэмакратамі. «Дэмакратычным сілам трэба было біць ва ўсе званы з нагоды нелегітымнасьці першага рэфэрэндуму. І для гэтага было досыць падстаў і фактаў. Але і старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб, і старшыня Канстытуцыйнага суда В. Ціхіня прамаўчалі. Такім чынам шлях да дыктатуры гвалту быў адкрыты» — перакананы кіраўнік праваабарончага цэнтру «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак («Народная газэта», 14 траўня 2010 г.)

«Можна канстатаваць, — піша далей Волчак, — што службовыя асобы, якія мелі дачыненьне да правядзеньня незаконнага рэфэрэндуму, зьдзейсьнілі крымінальна каральныя дзеяньні, якія кваліфікуюцца як захоп і ўтрыманьне дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, а таксама замах на жыцьцё дзяржаўных дзеячоў з мэтай дэстабілізацыі грамадзкага парадку і ўзьдзеяньня на прыняцьцё рашэньняў дзяржаўнымі органамі (тэрарыстычны акт). Усе ўдзельнікі тых падзей, ад шэраговага і да афіцэрскага складу, якія ўжывалі гвалт супраць дэпутатаў парляманту, таксама павінны быць прыцягнуты па даных артыкулах як непасрэдныя саўдзельнікі і выканаўцы захопу ўлады. Такая ж крымінальная адказнасьць ляжыць на членах Цэнтрвыбаркаму, якія зацьвердзілі вынікі незаконнага рэфэрэндуму.

Фактычна, 12 красавіка 1995 году кіраўнік дзяржавы Лукашэнка павінен быў быць адхілены ад улады

Фактычна, 12 красавіка 1995 году кіраўнік дзяржавы Лукашэнка павінен быў быць адхілены ад улады у сувязі з грубым парушэньнем Канстытуцыі, паколькі сваім рашэньнем аб прызначэньні рэфэрэндуму пра замену нацыянальнай сымболікі і ўвядзеньня рускай мовы ў ранг дзяржаўнай перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы, дадзеныя яму Канстытуцыяй».

Такім чынам, у часе прызначэньня і правядзеньня рэфэрэндуму 1995 г. былі парушаныя, як мінімум, артыкулы 17, 78 і 148 ч.2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Законы «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)», «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь», «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», а таксама «Часовы Рэглямэнт Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь». Асобная тэма — артыкулы Крымінальнага Кодэксу, пад якія трапляюць дзеяньні службовых асобаў, супрацоўнікаў праваахоўных органаў і спэцслужбаў у сувязі з падзеямі 12 красавіка 1995 г.

Перакананы: для будучага дэмакратычна абранага кіраўніка Беларусі (альбо парлямэнта, калі будзе прынята рашэньне вярнуцца да парлямэнцкай рэспублікі) , пытаньне аднаўленьня ў статусе дзяржаўных сымбаляў бел-чырвона-белага сьцяга і гэрбу «Пагоня», а таксама стутусу беларускай мовы — будзе пытаньнем аднаўленьня законнасьці.

Яно зойме роўна столькі сэкундаў ці хвілінаў, колькі трэба, каб паставіць подпіс пад указам альбо прагаласаваць адпаведную парлямэнцкую пастанову.

*Сяргей Навумчык, navumchyks@rferl.org*

*Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі і каардынатарам парлямэнцкай апазыцыі БНФ. У 1996 годзе атрымаў палітычны прытулак у ЗША.*

**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10